© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

 нумары: Ля мартэнаўскіх печаў | Літаратурная старонка | КОНКУРС




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (375) | ГОД VIII | 5 МАЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

НАСУСТРАЧ IV З'ЕЗДУ БГКТ

# НАПРАМАК — СЕЛЬГАСАСВЕТА

УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК
сакратар ГП БГКТ

Згодна са Статутам БГКТ, у канцы мая гэтага года закончыць сваю працу Галоўнае Праўленне трэцяй кадэнцыі нашага таварыства.

У сувязі з гэтым Прэзідыум ГП ужо ад пачатку бягучага года пачаў падрыхтоўку справаздаўча-выбарчай кампаніі. Актыў аддзела БГКТ і штатныя працаўнікі ГП пачалі абслугоўваць гурткі таварыства, праводзіць у іх справаздаўча-выбарчыя сходы, аналізаваць выкананне планаў працы і г.д. Да канца красавіка каля 90% усіх гурткоў правялі справаздаўча-выбарчыя сходы.

Да канца мая ўсе аддзелы павінны правесці канферэнцыі і выбраць дэлегатаў на з'езд.

Прэзідыум ГП вырашыў назначыць на 16 чэрвеня IV З'езд БГКТ.

У сувязі з набліжаючымся З'ездам БГКТ хочацца падзяліцца ўласнымі ўражаннямі з працы, звярнуць увагу чытачоў на некаторыя цяжкасці і дасягненні. Аб апошніх мы знаёмілі таварышаў у канцы кожнага года на старонках свайго органа «Нівы».

Галоўнае Праўленне БГКТ на працягу 3-х год паміж III і IV З'ездамі правяло пяць пленарных пасяджэнняў, а ў маі адбудзецца шостае.

Другі і чацвёрты пленумы былі прысвечаны актывізацыі прац гурткоў і аддзелаў таварыства. Ужо з гэтага відаць, што асноўная пастанова III З'езда, якая гаварыла аб патрэбе накіравання працы на вёску, была рэалізавана. Аналіз працы праўленняў аддзелаў і гурткоў БГКТ дапамог нашаму актыву зразумець сутнасць існавання гэтых арганізацыйных адзінак таварыства. Прыкметныя змены на лепшае зайшлі ў Гайнаўскім праўленні аддзела, Сакольскім, Сямяціцкім, ажыўленую дзейнасць праяўляў гарадскі аддзел у Беластоку, актыў варшаўскага аддзела. Побач з гэтым некаторыя аддзелы, апрача правядзення некалькіх пасяджэнняў і арганізавання навагодняй ёлкі, ніякай працай не выказаліся. Утрымоўванне такіх праўленняў у нязменным складзе будзіць апраўданыя засцярогі. Людзі, якія на працягу ўсёй кадэнцыі не выказаліся працай для сваёй арганізацыі, павінны ўступіць месца сапраўдным дзеячам. А дзеячоў такіх нашае асяроддзе выдала многа. Здаецца, што менавіта гэта недастатковая актыўнасць членаў праўленняў аддзелаў БГКТ і мясцовага актыву была асноўнай праблемай бягучай кадэнцыі, але праблема гэта поўнасцю яшчэ не вырашана.

Былі спробы звальвання ўсёй працы на штатных працаўнікоў ГП. Аказалася гэта немагчымым па дзвюх прычынах: а) штатнага апарату не так многа, ды і з яго складу трэцяя частка прыдзелена аддзелам БГКТ, наступны

(Працяг на стар. 4)

## IV З'ЕЗД БГКТ

**На апошнім пасяджэнні ГП БГКТ вырашана, што чарговы З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбудзецца 16 чэрвеня г.г.**

**З'езд абмяркуе прайшоўшы ад III з'езда адрэзак часу ў працы нашага Таварыства і вызначыць далейшыя заданні.**

**З'езд адбудзецца ў Беластоку ў будынку Галоўнага Праўлення БГКТ.**

Вокладка зборніка «Мой родны кут», які нядаўна выйшаў у свет, выдадзены выдавецтвам ГП БГКТ. Рэцэнзію на зборнік чытайце на стар. 3.




## У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ



Сцэна з п'есы «Мікітаў лапаць» у выкананні самадзейнікаў з Паўлаў, Бельскага павета. фота Г. Рагазінскі

## МАЙ, ВЯСНА КНІЖКА

Ад чаго выводзіцца слова «кніжка» — дакладна яшчэ невядома. Але вядома, што сама кніжка — паняцце вельмі старое. Праўда, кніжка не заўсёды выглядала так, як цяпер, а ўсё ж-такі была гэта кніжка. Папірусныя звіткі ў егіпцян, запісаныя лісты пальмы ў індзейцаў, гліняныя і каменныя таблічкі ў асірыйцаў, залатыя і сярэбраныя — у грэкаў і, урэшце, пачынаючы ад II стаг. да нашай эры, пергаментныя звіткі — гэта ўсё кніжкі, каштоўныя скарбы з тысячагоддзяў да нашай эры.

Дакументы расказваюць аб самых найстарэйшых бібліятэках:

1) Год 1400 да н.э. — бібліятэка звіткаў і цаглінак фараона Аменафіса III.

2) VII стаг. да н.э. бібліятэка гліняных таблічак асірыйскага караля Асурбанібала ў Ніневіі.

3) У Грэцыі вядомы першыя бібліятэ-

(Працяг на стар. 5)

## УЗНАГАРОДЫ ДЛЯ ДЗЕЯЧОЎ КУЛЬТУРЫ

У сувязі з Днямі культуры, асветы і друку, ГП БГКТ вырашыла ўзнагародзіць перадавых дзеячоў культурнага руху у нашым асяроддзі грашовымі ўзнагародамі. І так, Генрых Гаўзе, рэжысёр драмгуртка ў Леўках, Бельскага павета, які на ваяводскім аглядзе заняў першае месца, атрымаў 600 зл. Іван Аляксеюк, рэжысёр драмгуртка ў Новым Востраве, Сакольскага павета, узнагароджаны 400 зл. Іван Грыгарук з Дубіч Асочных, Гай-

(Працяг на стар. 5)

# КОНКУРС

**З мэтай папулярызацыі беларускай песні і ажыўлення культурнага жыцця ў асяроддзі Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства аб'яўляе**

**КОНКУРС НА НАЙЛЕПЕЙ ВЫКАНАНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ПЕСНЮ**

**УМОВЫ КОНКУРСУ:**

**1. Удзельнікам конкурсу можа быць кожны(ая) грамадзянін(нка), які(ая) мае закончаных 16 год, не з'яўляецца прафесіянальным спеваком(чкай) і зложыць заяўку на ўдзельніцтва.**

**2. Удзельнікі конкурсу могуць выконваць народныя песні і песні як ранейшых, так і сучасных кампазітараў. Найбольш пажаданыя мясцовыя народныя песні.**

**3. Кожны ўдзельнік конкурсу павінен падрыхтаваць тры песні.**

**УЗНАГАРОДЫ:**

**I — 600 зл.**
**II — 400 зл.**
**III — 300 зл.**

**Заяўкі трэба дасылаць да 31.V.1963 г. на адрас:**

ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.

**У заяўцы павінна быць: дакладны адрас, узрост і месца працы.**

**Пасля атрымання заявак аб тэрміне конкурсу будзе спецыяльнае паведамленне.**

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ПАДСТАВЫ АПТЫМІЗМУ

«Чалавецтва мае ўсе падставы для аптымізму, для веры, што прагрэсіўныя сілы пераадоляць рэакцыю, для веры, што сілы міру перамогуць сілы вайны».

Гэтыя словы сказаў тыдзень таму правадыр рэвалюцыйнай Кубы Фідэль Кастра ў час свайго выступлення на Чырвонай плошчы ў Маскве. Прыгаданыя словы заключаюць характарыстыку нашай сённяшняй эпохі.

У сапраўднасці, чалавецтва мае падставы для аптымізму, таму што развіццё свету ідзе ў напрамку, акрэсленым творцамі навуковага сацыялізма, таму што сацыялізм стаецца рэчаіснасцю, якая ахоплівае сабою штораз большую колькасць народаў. Для многіх людзей, якія нават не ведаюць добра марксісцкай навукі, з'яўляцца сацыялістам ці камуністам азначае быць лепшым, прагрэсіўным і справядлівым. І таму толькі, што сацыялізм прадстаўляе гэтыя найбольш людскія вартасці, ён здабывае няспынна новыя мільёны прыхільнікаў і ў краінах высока развітых і ў недаступных джунглях Афрыкі.

Чалавецтва мае падставы для аптымізму, таму што СССР і ўсе сацыялістычныя краіны дасягаюць штораз новых поспехаў, выклікаючы захапленне ў кожнага чалавека. Дасягненні ў космасе, а таксама на зямлі — у эканамічным жыцці, якімі ганарыцца першая сацыялістычная дзяржава — СССР, даюць ужо сёння неабвяргальныя доказы, што камунізм з'яўляецца вышэйшай формай жыцця, чым капіталізм. Гэта ўсё выклікае ў нас апраўданы аптымізм. Наглядна бачым, як з няспынна развіваючайся перавагі сацыялізма родзіцца вера ў магчымасць захавання міру ў свеце, у магчымасць ўтаймавання імперыялістычных сіл і вызвалення ўсіх закабаленых народаў.

У той час, калі прэм'ер Кубы збіраўся з візітам у СССР, прэзідэнт ЗША Кенедзі заявіў на прэсканферэнцыі ў Вашынгтоне: «На мой погляд, мы зрабілі амаль усё, што можна было зрабіць, каб паказаць нашую варожасць да савецкага сатэліта ў раёне Карайбскага мора.»

Гэта праўда. Злучаныя Штаты ўсё зрабілі, уключна з непасрэднай агрэсіяй, каб ліквідаваць на Кубе сацыялізм. Гэтыя замеры не споўніліся па дзвюх прычынах: кубінцы, спазнаўшы свабоду і сацыялізм, мужна усталі ў абароне гэтых вартасцей; на баку Кубы апынуліся ўсе сацыялістычныя краіны і іх прыхільнікі. У выпадку Кубы імперыялісты зразумелі, што замах на гэтую краіну раўняўся б замаху на сусветны мір.

У развіцці сучаснага свету мы, мабыць, дайшлі да такой стадыі, у якой імперыялістычныя сілы не бачаць ужо больш карысці ў агрэсіўных войнах. Магчыма, што гэтая думка не з'яўляецца такой ужо гуманнай і аптымістычнай. Аднак, мабыць, у недалёкай будучыні яна дазволіць значнай частцы буржуазных урадаў зразумець усю абсурдальнасць гонкі ўзбраення ці выклікання новых канфліктаў, грозных для ўсяго чалавецтва. Калі аднак мы верым у перамогу ідэй міру над сіламі вайны, дык гэта не азначае, што верым таксама ў магчымасць змены характару імперыялізму. Гэтую веру мы абапіраем на падрабязна намі аблічаных паказчыках нашага эканамічнага развіцця. Глыбокі сэнс заключае ў сабе вядомае сцвярджэнне, што аб міры ў свеце вырашыць матэрыяльная сіла сацыялізма. Гарантыяй развіцця ўсяго свету ва ўмовах міру і свабоды з'яўляецца развіццё эканомікі, асветы і культуры сацыялістычных дзяржаў.

Святкаванне Міжнароднага свята рабочага класа — 1 Мая дало доказ, што нашыя думкі падзяляюць сотні мільёнаў людзей ва ўсім свеце.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# У ГАСЦЯХ У МАРТЭНАЎСКІХ ПЕЧАЎ

В. БАРШЧЭЎСКІ

— Колькі часу вы намераны ў нас быць? — запыталі мяне ў інфармацыйным бюро навагуцкага камбіната.

— Дзень, можа два, — кажу, — каб добра пазнаёміцца з камбінатам.

— Вы што, жартуеце? Дык жа з нашым камбінатам вы і за тыдзень не пазнаёміцеся! — адказалі мне з усмешкай.

Аб сваёй наіўнасці я толькі тады пераканаўся, калі, аформіўшы пропуск, разам з маім праваднікам, рэдактарам Данкам, працаўніком «Голаса Новай Гуты», аказаўся на тэрыторыі камбіната. Металургічны камбінат — гэта гігант, веліч якога цяжка ўявіць нявопытнаму. Зараз ён размяшчаецца на тэрыторыі плошчай звыш тысячы гектараў. У камбінаце працуе каля 20 тысяч рабочых. У бягучым годзе прадукцыя камбіната дасягае звыш 2 мільёнаў тон сталі. Варта тут падкрэсліць, што прадукцыя ўсіх гутаў даваеннай Польшчы не перавышала аднаго мільёна чатырохсот тысяч тон сталі. У мінулым годзе калектыў камбіната выпрацаваў амаль два мільярды злотых даходу. Зараз у кожныя суткі камбінат выпрацоўвае 6,5 мільёнаў злотых даходу. Далейшыя капіталаўкладанні на разбудову камбіната (у 1980 годзе будзе тут працаваць 40 тысяч людзей, а прадукцыя дасягне звыш 9 мільёнаў тон сталі ў год) пакрываюцца з даходу, выпрацаванага самім камбінатам.

Новую Гуту, як вядома, наша краіна будуе пры выдатнай дапамозе Савецкага Саюза. Каля 90% усіх машын і абсталявання Новай Гуты прывезена з Савецкага Саюза. Зрэшты, і сам праект пабудовы гіганта апрацаваны ў Маскве. Звыш 80% рабочага калектыву Новай Гуты — гэта былыя земляробы, якія да часу пабудовы камбіната нічога супольнага з металургіяй не мелі. Спецыяльнасць сталевараў многія з іх атрымалі менавіта ў Савецкім Саюзе ў «Запарожсталі». З таго часу і навязаліся братэрскія адносіны паміж сталяварамі Новай Гуты і «Запарожсталі». Некаторыя сталявары пастаянна перапісваюцца з савецкімі сябрамі, наведваюць адны другіх у працы, пераймаюць вопыт.

Экскурсію па камбінаце мы пачалі ад цэха мартэнаўскіх печаў, дзе варыцца сталь. Праца тут наскрозь механізавана. Да печаў аўтаматычна пад'язджаюць ваганеткі з сыравінай і дамешкамі. Аўтаматычна ўсё гэта высыпаецца ў печ. Цэх — гігант, вокам канца не згледзіш, а людзей тут зусім мала відаць. Кожныя дзесяць гадзін з мартэнаўскай печы выліваецца сталь. За адзін раз у печы варыцца прыблізна каля 400 тон сталі. Тут сустрэла мяне нечаканая прыемнасць. Аказваецца, найлепшым сталяварам мартэнаўскага цэха, які славіцца на ўсю Новую Гуту, з'яўляецца былы жыхар вёскі Каменка на Сакольшчыне Станіслаў Барэйчык. На жаль, не давялося мне сустрэцца з Барэйчыкам. Ён працаваў на начной змене.

З мартэнаўскага цэха мы паехалі ў цэх вальцавання блях. Да вальца-гіганта пад'язджаюць велізарныя блокі распаленай дабяла сталі. Нязначны рух пальцаў апаратара — і блокі, быццам паленцы дроў, перакручваюцца і падсоўваюцца пад валец. Некалькі ру-

(Працяг на стар. 5)




## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ

28 красавіка г.г. у Гайнаўцы адбылася справаздачна - выбарчая канферэнцыя мясцовага аддзела БГКТ. З дакладам выступіла Вера Юшчук. Канферэнцыя абмеркавала працу аддзела за мінулыя 3 гады, выбрала новыя ўлады і прыняла пастановы. Справаздача з канферэнцыі будзе ў наступным нумары.

## СЕМІНАР ЛІТАБ'ЯДНАННЯ

27 і 28.IV. г.г. адбыўся семінар Літаратурнага аб'яднання «Белавежа». У першым дню члены аб'яднання выслухалі даклад Алеся Барскага аб творчасці Міхася Зарэцкага і абмеркавалі свае новыя творы. Вечарам «белавежцы» выступілі на літаратурных вечарынах у Гайнаўцы у Доме настаўніка і ў мясцовай завадовай школе. На другі дзень была абмяркоўка Літаратурнай старонкі і аўтарская сустрэча з грамадскасцю Беластока ў Міжнародным клубе кніжкі і друку.

## ПАСЯДЖЭННЕ НАВУКОВАГА ГУРТКА

29.IV у памяшканні ГП БГКТ адбылося пасяджэнне навуковага гуртка, на якім былі абмеркаваны матэрыялы, падрыхтаваныя для чарговай публікацыі.

# Спорт

**Футбол.** Можна сказаць, што мінулая нядзеля прайшла без неспадзянак. Першая ліга згуляла па плану, і значных змен у турнірнай табліцы не адбылося, за выключэннем пературоўкі ўгары, дзе Палонія, Заглэмбе і Рух памяняліся месцамі. Вядзе па-ранейшаму ўпэўнена Гурнік, за ім у пяціачковай адлегласці гоняцца, топчучы сабе па пятках, па чарзе: Палонія, Рух і Заглэмбе. Але гэтыя дагонкі, здаецца, ужо для Гурніка небяспекай не пагражаюць.

У II лізе ўсё яшчэ магчыма, улічыўшы, што апошнім часам Шамберкі нейк не вытрымліваюць папярэдняга тэмпа. Але пакуль яшчэ вядуць.

Аб беластоцкім футболе нічога суцяшальнага сказаць не можам. Ідзе выразна наперадзе элцкі Мазур, хоць і ён далёкі ад свайго нармальнага выгляду, хоць бы з папярэдніх гадоў.

Ужо чацвертую нічыю зрабіла ў гэтым сезоне мінскае Дынама. Гэтым разам з лідэрам групы тбіліскімі аднаклубнікамі. Гэта нядрэнна. Дык усе дагэтуляшнія гульні, апрача сустрэчы з кіеўлянамі, беларусы правялі на полі праціўніка. Займаюць цяпер мінчане II месца і маюць рэальныя магчымасці хутка прасунуцца наперад: у маі перакачуюць з поўдня на свой стадыён, а, як вядома, у сваёй хаце і сцены памагаюць.

**Бокс.** Бліскуча закончыла адборачны турнір на кубак ГККФіТ баксёрская зборная юніёраў Беластока. У апошнім матчы яна з лікам 16:6 перамагла зборную Варшавы. Такім чынам беластачане ўвайшлі ў фінальныя гульні без ніводнага паражэння. Віншуем!

**Аут**




Дырэктар завода артылерыйскіх снарадаў і фаустпатронаў «Ганс Еемер» Артур Кюметц узяў вялікую сігару, панюхаў яе, акуратна абрэзаў сцізорыкам кончык і запаліў.

Увайшла сакратарша.

— Пан Крыгер, — сказала яна, пытальна глянуўшы на дырэктара.

Кюметц кіўнуў сакратаршы. Тая выйшла і ўпусціла ў кабінет пажылога чалавека ў акуратным чорным гарнітуры. Гэта быў загадчык завадской канцылярыі Карл Крыгер.

Пачаўся даклад. Крыгер быў дакладны. Выклаўшы ў некалькі словах сутнасць справы, ён перадаў шэфу паперы на подпіс. Калі дырэктар, афарміўшы справы, адпусціў загадчыка канцылярыі, той, дайшоўшы да дзвярэй, раптам спыніўся.

116

— Выбачайце, забыў далажыць... Здаецца, я знайшоў адпаведнага чалавека.

— Шафёра?

— Так.

— Зразумела, жанчына?

— Мужчына, пане дырэктар!

— З усходніх рабочых?

— Не.

— Хто ж тады?

— Немец, пане дырэктар.

— І не калека?

— Ён не інвалід... Гэта значыць, інвалід, але не ў тым сэнсе. Быў пад бамбёжкай. Словам крыху не таго. Яго вылечылі. Так што практычна здаровы.

Дырэктар адкінуў сігару.

— Не хапае толькі, каб маёй машынай кіраваў вар'ят. Самі вы таго, калі прапануеце мне такога шафёра?

Крыгер паціснуў плячыма.

— Вам вырашаць, пане дырэктар. Але дзе цяпер узяць здаровага хлопца, які хадзіў бы без работы?

— Ён тут?

— Так, я сказаў яму, каб прыйшоў. На ўсялякі выпадак.

— Добра. Але адкуль ён узяўся?

— Прыйшоў у аўторак, калі я прыймаю наведвальнікаў. Перш, чым далажыць вам, я праверыў яго, як мог. Мы выйшлі, і я пасадзіў яго за руль свайго «Опеля». Мы праехалі ўсяго некалькі кіла-

117

метраў, але я зразумеў, што магу яго смела рэкамендаваць. Зразумела, як шафёра. Што датычыць дакументаў, то будзе, вядома, спецыяльная праверка.

— Добра, — сказаў Кюметц, — давайце яго сюды.

Крыгер выйшаў. Праз мінуту ён вярнуўся з Аскерам. Чагола аголеная галава, цёмныя вусы шчоткай, нейкая сумесь нясмеласці і разгубленасці ў шырока адкрытых ясных вачах за шкламі акуляраў — усё гэта ў спалучэнні з цеснаватай зялёнай курткай і жоўтымі брыджамі моцна змяніла знешнасць разведчыка.

Кюметц уважліва агледзеў прыставатага і, відавочна, крыху нязграбнага хлопца.

«З вясковых», — падумаў ён.

— Прозвішча?

— Генрых Губэ, — адчаканіў Аскер.

— Мне трэба адказваць: пане дырэктар, — сказаў Кюметц. — Вы зразумелі?

— Так точна, пане дырэктар!

Кюметц звыш дваццаці год правёў на ваеннай службе і найбольш за ўсё на свеце цаніў дысцыпліну і парадак. Аскер ведаў аб гэтым і дзейнічаў па строга распрацаванаму плану.

— Дакументы.

Аскер падаў пашпарт, шафёрскае пасведчанне, паперку з бальніцы.

— Зы глядзелі іх? — спытаў Кюметц загадчыка канцылярыі.

(Працяг на стар. 4)

118



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

**Аўтаномная старонка літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа»**

**№ 54**

ВІКТАР ШВЕД




Май сонечны, прыгожы май вясенні,
Ты сонца яркае падняў высока,
Каб неўмiручыя яго праменні
Зімы аковы нішчылі навокал.

Май жыццядайны, у вясне закаханы
У абдымках з ёю, як з дзяўчынай, крочыш.
Нясеш шырока кветак пах духмяны
І зямлі соннай адкрываеш вочы.

Бунтарскі май, не церпіш ты застою,
Ты з гвалтам, з цемрай у барацьбе заўсёды,
З усім аджыўшым ты ідзеш да бою
І для прагрэсу зносіш перашкоды.

Май — сімвал працы, змагання людскога,
Лепшага заўтра — людскіх летуценняў.
Ты на развалінах жыцця старога
Будуеш гмах шчаслівым пакаленням.

Май пераможны, ты ў сорак пятым
Пераступіў парог вайны крывавай.
І ўсюды міру сееш ты зярняты,
Стаіш на грунце заўжды слушнай справы.

Ты мірны, май, за мір завеш змагацца,
Падпальшчыкам з рук выбіваеш зброю,
Каб войны не маглі больш паўтарацца,
Зямля больш не насяквала крывёю.

Шчаслівы май, жывеш ты у народзе,
Пара святочная — так дарагая.
З штандарамі чырвонымі ў паходзе
Цябе вітаем песняй Першамая.

ЮРКА ЗУБРЫЦКІ

# НОВАЕ

Згодны я у гэтым з многімі,
Новае — не з музыкай парад.
Няўлоўнымі калонамі станогімі
Цягне нас мінулае назад.

Ведамі рубежнымі ахутаны,
Гойсаем з прывалу на прывал
І сябе, змагаючыся з культамі,
Ўзводзім, па дарозе, ў ідэал.

На наш век цяжкія часы выпалі:
У нябесных прыдарожных снах
Мёданоснымі, зямнымі ліпамі
Садзім мы упарта Млечны Шлях.

МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ

# УПЕРШЫНЮ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Выдавецтва ГП БГКТ выпусціла гэтымі днямі з друку зборнік п.з. «Мой родны кут». Ён прызначаны, як падкрэсліваецца ў кароткай прадмове, у асноўным для вучняў пачатковых школ, дзе вывучаецца беларуская мова. Сама па сабе задума такога выдання вельмі каштоўная, калі ўлічым, што школьныя бібліятэкі адчуваюць нястачу дзіцячай літаратуры. На нашую долю выпала нялёгкае заданне. Давядзецца ж даць ацэнку выданню, ад якога патрабуецца асаблівага майстэрства, а адначасова трэба будзе памятаць аб вельмі скромных магчымасцях выдавецтва.

Зборнік «Мой родны кут» складаюць вершы і проза. Увесь змешчаны ў ім матэрыял належыць пяру мясцовых аўтараў, у асноўным, членаў Літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

Вершы і апавяданні трэба лічыць, несумненна, асноўным фондам зборніка. Яны, як правіла, павінны захапляць, узбагачаць унутраны свет юнага чытача, у высока мастацкай форме расказаць яму аб жыцці. Ды, урэшце, літаратура для дзяцей павінна быць яшчэ больш цікавай і займальнай, чымсьці літаратура для дарослых. У нашым выпадку, на жаль, не ўсе аўтары дакладна разбіраюцца ў задачах, якія ставіць перад імі таго роду творчасць. Яны быццам хорам загаварылі мовай, якая надта ж не прыпадае да спадобы дзецям. Маю тут на ўвазе празмернае захапленне словамі з памяншальна - ласкальным адценнем. Аж кішаць гэтымі словамі творы В. Шведа, Я. Хлябіча, А. Свіська і Я. Бурша. Шчыра кажучы, млосна робіцца, калі чытаеш без перапынку аб «каточках», «пясочках», «свінках», «боціках». Вось, як прыклад, прапаную вашай увазе зваротку з верша В. Шведа «Зіма», у якім ён б'е свайго роду рэкорд:

У полі птушанятачкі
Дрыжаць, як ліст бярозкі,
Шукаюць сабе хатачкі
У зацішшы нашай вёскі.

А дзеці тым часам вельмі любяць, калі з імі размаўляюць як роўны з роўным, калі звяртаюцца да іх дарослыя адкрыта і шчыра, не прысядаючы перад імі. Надакучыць можна малым чытачам іназойлівай дыдактыкай. Такой менавіта заганай грашыць твор М. Гайдука «Як здаровым хочаш быць...». Тут жа толькі выступаюць загады ці нейкія зарыфмаваныя лозунгі. Паслухайма:

Устаўшы, раз — рукі
ўгору,
Падцягніся, як не сорам
Быць маломy ўжо
старым!
Прабяжыся па двары.
Пяць прысядаў, дзесяць
скокаў,
Дастань пятку, схілісь
бокам,
На расістай мураве —
«Мосцік», стойкі зрабі
дзве!
І спявай, спявай, спявай,
Бо і жаўранак, як ўстане,
Дзень вітае ён спяваннем.

— Хопіць, хопіць, — скажам аўтару, якога твор гучыць шаблонна і проста не цікава. Гэты твор не патрапіць уздзейнічаць на малога чытача; ён і так мае навокал удоваль усялякіх загадаў, просьбаў і заўваг. Хацелася б нам і лепшага твора ад Алеся Барскага, які сваім вершам «Мой родны кут» адкрывае зборнік. Мова тут наогул бедная, нейкая бясколерная. Мы не павінны забываць, што ў дзяцей вельмі развіта паэтычнае ўспрыйманне навакольнага жыцця, што толькі творы, напісаныя з добрым мастацкім густам, якія ў сапраўдным паэтычным вобразе ўзнаўляюць хараство родных пейзажаў, могуць выклікаць уражанне ў хоць і малога, але вельмі патрабавальнага чытача. Пяру А. Барскага належыць таксама паэма п.з. «Мікола». Хаця ў паасобных месцах знойдзем пэўныя непаладкі, выкліканыя недапрацаванасцю, аднак у цэлым «Мікола» — гэта цікавая з'ява ў зборніку. Твор напісаны з пэўнай эмацыянальнай нагрузкай, дзеянне тут гнуткае і вартае ўвагі нашага дапытлівага чытача. Твор расказвае аб долі сялянскага хлапчука, які, спазнаўшы на панскім двары ўсе жахі няволі, становіцца народным мсціўцам. А. Барскі спрабуе паказаць нам свайго героя чалавекам, надзеленым высакароднымі рысамі характару, змагаром супроць сацыяльнай несправядлівасці.

Куды лепш выпалі ў зборніку апавяданні. Найбольшай спеласцю вылучаецца бадай што апавяданне В. Рудчыка «Сямейны талісман». У ім наглядаем апраўданасць сітуацыі, натуральныя сюжэтныя хады. У творы расказваецца пра партрэцік Леніна, які як самую дарагую рэліквію захоўваў з дзіцячых год Міхась Завада. Аўтар здолеў асабліва з мастацкім густам перадаць нам сустрэчу Міхася — колішняга пастушка — з незнаёмым чалавекам, які ўручыў яму партрэцік Леніна. Займальна і жыва адлюстравана тут іх размова; з непадкупнай шчырасцю паказана наіўнасць сялянскага хлапчука, які ўспрыняў гэты партрэцік за святы абразок. Твор у цэлым напісаны займальна і жыва. Затое не справіўся са сваёй задачай аўтар рысункаў. Відаць, абыякавы быў для яго вонкавы выгляд Міхася. Вось даў толькі «дзяжурны» рысунак, не аглядаючыся на яго адпаведнасць са зместам апавядання. В. Рудчык малюе нам героя, апранутага па-жабрацкаму: у штонікі з падзертай калошай, якая па зямлі цягнулася, а другая ледзь закрывала калена. Кашуля ж нагадвала толькі шматку з дзіркамі. Тым часам на рысунку бачым салідна апранутага хлапчука без ніводнага следу яго страшэннай галечы. Не трэба тут шмат гаварыць, што рысункі і малюнкі ў дзіцячых выданнях павінны дапамагаць чытачу бачыць яскравей і глыбей герояў твора. На жаль, гэта не адзіны выпадак у зборніку. Напрыклад, рысунак дзяўчынкі з казкі М. Гайдука п.з. «Трысцінка і каваль» нагадвае чалавека - пачвару.

У першай частцы зборніка ўдалымі з'яўляюцца апрацоўкі М. Гайдуком народных казак і легенд, пачэрпнутых з мясцовага фальклору. Вылучаю тут асабліва казку «Жывая вада» і легенду «Пра золата і зайздрасць». Добра сталася, што аўтар аддаў нейкую долю ўвагі і павучальнаму характару твораў. У легендзе «Пра золата і зайздрасць» клеймуецца людская прагнасць, якая вядзе да самых найгоршых учынкаў.

Вартасным творам з'яўляецца апавяданне Я. Блізнюка «Памірыліся», дзе знойдзем выхаваўчыя моманты. Аўтар намагаецца выклікаць у дзяцей добрую думку, прышчапіць ім павагу да сваіх школьных сяброў, павагу да працы. І робіць гэта ўмела і пераканаўча. Школьны бамбіза Коля, які заўсёды дакучаў аднакласніцы Розе, перараджаецца, стаецца добрым вучнем і прыяцелем працавітай вучаніцы. У зборніку знойдзем і большыя формы, як «Абразкі з жыцця Кастуся Каліноўскага» А. Баравога і ўрывак п.з. «Світанне будзе заўтра» з аповесці В. Рудчыка.

А. Баравы ў лёгкай форме дае нам карцінкі з жыцця і дзейнасці беларускага нацыянальнага героя. Твор даступны для школьнікаў і несумненна паможа замацаваць у іх памяці некаторыя бакі дзейнасці Каліноўскага, аб якіх яны даведаюцца ў агульных абрысах з падручнікаў. Каштоўнае і тое, што дзея ў «Абразках...» разгортваецца пераважна на фоне Беласточчыны. Дзякуючы гэтаму, больш трывала спалучаць школьнікі імя героя з Мастаўлянамі ці Беластокам.

Другую частку зборніка «Мой родны кут» складаюць артыкулы, спалучаныя агульным цыклам, азагалоўленым «Пазнай сваю бацькаўшчыну». Пяру Ул. Юзвюка належыць тут абмеркаванне ў, зразумела, вельмі скандэнсаваным выглядзе справы засялення Падляшша і турыстычная даведка аб паўднёва-усходняй Беласточчыне. Матэрыял гэты напісаны жывой і вобразнай моваю. Відаць, што аўтар імкнуўся наладзіць тут сувязь са школьнікамі і ў гэтым яму пашанцавала. Даведцы спадарожнічаюць шматлікія фатаграфіі. З намаганнем загаварыць да юнага чытача апрацаваны артыкул В. Склубоўскага п. з. «Песня перамагла». У вобразнай форме паказана тут барацьба беларусаў у міжваенны час за асвету на роднай мове, з гістарычнай праўдзівасцю адлюстраваны махінацыі санацыйных улад, каб супроцьстаяць гэтым імкненням. Артыкул хутчэй нагадвае апавяданне, якое напэўна з цікавасцю прачытае наш школьнік. На іншы бок барацьбы супроць прыгнёту звяртае ўвагу ў сваіх успамінах Г. Анацік. Тут маем сутыкненне рабочых з фабрыкантам, які пасецца на

(Працяг на стар. 4)

С. ЗАСТАВІН

# ПАЛЯВАННЕ НА КАНЯ

Як не дзіўна гучыць загаловак апавядання, я абсалютна не намераны яго змяняць! Паляванне на каня здарылася ў нас год, мабыць, дваццаць, дваццаць пяць таму назад! У час начлегу. Спяшаю выясніць, што слова «начлег» асабліва ў нашай вёсцы і асабліва летам мае спецыяльнае значэнне. Начлегам называецца начны выпас коней, калі дзесятка паўтара мужчын выязджае далёка за вёску яшчэ з вечара, а вяртаецца раніцаю. У час, калі коні пасвяцца на добрай траве, начлежнікі, расклаўшы агонь і падсцяліўшы пад сябе цёплыя ватоўкі, смяюцца, жартуюць або правяць такія дзіўныя гісторыі, што ледзь у вушы ўбярэш! І гэтак цэлую ноч. Бо ў начлежнікаў свой няпісаны закон: на начлезе можна рабіць усё, нельга толькі спаць! Хто задрамаў — наракай сам на сябе! Штосьці так і выйдзе з гэтага: то лапаць прападзе, то вуздзечка, або ў сажу вымажуць, або яшчэ інш... Нельга спаць і канец! Вось на такім адным начлезе здарылася гэтая нештодзённая гісторыя з Хухалёвым канём. Было ўжо за поўнач, калі каваль Хухаль вырашыў радыкальна пакончыць з нахлынуўшай дрымотай:

— Пайду, хіба, хлопцы, каня паглядзець! — сказаў ён, падняўшыся ад агня з небяспечна прыжмуранымі вачыма.

— А ідзі, ідзі... — стрымана адказаў Віктар, — конь да цябе не прыдзе!

Каваль праз хвіліну тупа глядзеў на яго і, нічога не адказаўшы, паплёўся ў поле. Калі аднак вярнуўся за нейкі час выразна ўсхваляваны, усе насцярожыліся.

— А што ж там з табою, Хухаль? — спытаўся Віктар ва ўсхваляванага каваля.

— Бяда, хлопцы — адказаў той, ледзь пераводзячы дух. — Бяда! Каня няма! Прапаў конь!

— Конь прапаў? — здзівіўся Цэкаўка. — Як жа конь прапасці можа?!

— Прапаў, хлопцы! Прапаў! — сіплым голасам цвярдзіў каваль. Мужыкі заварушыліся...

— Стой, Хухаль! Спакойна! — крыкнуў разважны дзядзька Фёдар. — Конь жа не іголка, у траве не згубіцца?!

— Не згубіцца, — прытакнуў каваль і бездапаможна азірнуўся.

— Значыць, не мог прапасці! — заключыў дзядзька Фёдар, які заўсёды цаніў яснасць думкі.

— Не мог... — ізноў прытакнуў Хухаль. І дадаў: — Не мог, а прапаў!

— Брэшаш! — узлаваўся Фёдар. — Іголка конь, ці не іголка?

— Не, не іголка, — адказаў збянтэжана Хухаль.

— Добра, — працягваў дзядзька Фёдар, падняўшы ў гару тоўсты палец. — Значыць, калі не іголка, не мог у траве згубіцца, што?!

— Не мог... — пакорна паўтарыў каваль.

— Фёдар! — перапыніў Чухрэй. — Не мог, а прапаў. Ды конь і іголка

(Працяг на стар. 5)





© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## КУДЫ ПРАПАЛА ЗОЛАТА РЭЙХСБАНКА?

Як і куды прапалі велізарныя залатыя і грашовыя фонды рэйхсбанка, схаваныя ў лясах Баварыі напярэдадні капітуляцыі гітлераўскай Германіі? На гэтае пытанне спрабавалі адказаць афіцэры англійскай разведкі В. Стэнлі Масом і Эндр'ю Кенедзі.

* * *

Настаў месяц сакавік 1945 года. У Берліне сумятня і паніка. Паляць архівы. У глыбокіх падзямеллях імперскай канцылярыі Гітлер рыхтуецца да смерці. У гэтыя дні Вальтэр Функ і Кальтэнбрунер распрацоўваюць план схавання залатых і грашовых запасаў рэйхсбанка, каб магчы пасля капітуляцыі фінансаваць фашысцкае падполле і стварыць новыя рэваншысцкія і мілітарысцкія арганізацыі. Мітэнвальдскі ляснічы Фельдман атрымаў экстранае заданне: падшукаць мала даступнае месца ў лясах. У палове красавіка, ноччу, прыбыла ў Мітэнвальд калона танкаў. Аперацыю праводзілі давераныя афіцэры «СС», пераапранутыя ў форму радавых салдат. Прывезена 730 залатых зліткаў вагаю ў 9 тон, 25 скрыняў з каштоўнымі каменнямі і металамі, 6 вялікіх мяшкоў заграніўнай валюты, а таксама абсталяванне гестапаўскай тайнай лабараторыі для фабрыкацыі фальшывых грошай. Функ выехаў асобна і яму не ўдалося прабрацца ў Баварыю: па дарозе быў распазнаны і трапіў у рукі амерыканскай разведкі «Сі-Ай-Сі». У яго запісной кніжачцы быў знойдзены адрас Фельдмана. Гэта не магло не навесці агентаў «Сі-Ай-Сі» на залаты след.

Да ліку выканаўцаў плана Функа-Кальтэнбрунера належалі: палкоўнік Фрыц Куртман, Карл і Франц фон Гейнрыхштэйн — сыны германскага пасла ў Швецыі, а таксама капітан Карл Гейнрыхштэйн — начальнік штаба горнаегерскага палка, ахоўваючага аперацыю. Апрача таго Маціяс Сцінес — сваяк вядомага нямецкага фабрыканта, Цэнта Хаузер — жонка палкоўніка войск «СС» і ўласніца гасцініцы ў Гарміш - Партэнкірхене, дзе звычайна зыходзіліся на пагулянкі афіцэры «СС» з усяе акругі, Гюнтэр Лібенау — афіцэр «СС» і другія, мабыць, больш высокія асабістасці, якія па сённяшні дзень застаюцца ў ценю.

24 красавіка частку скрынак і мяшкоў, што часова перахоўваліся ў мясцовым афіцэрскім казіно, зноў пагрузілі на танкі і пад узмоцненым канвоем адправілі ў вёсачку Эйнзідэль. Уначы 26 красавіка 1945 г. гэтыя каштоўнасці, складзеныя ў доме эйнзідэльскага нацыста Мантлера, былі перавезены на конях у лес і там закапаны. Аперацыю праводзіла пятнаццаць афіцэраў, а ўвесь раён быў абкружаны салдатамі горнаегерскага палка, што не магло не выклікаць зацікаўлення ў насельніцтва. І так, калі праз тры дні Эйнзідэль занялі часці 10-ай амерыканскай бронетанкавай дывізіі, скарб хутка быў выкрыты і перавезены ў Гарміш-Партэнкірхен. Там аказалася некалькі сот зліткаў золата агульнай вартасцю 10 мільёнаў долараў. Але гэта была ўсяго толькі частка каштоўнасцей. Рэшту золата і заграніўнай валюты фашыстам удалося або прыхаваць, або перавесці на заграніўныя конта, у першую чаргу швейцарскіх і паўднёваамерыканскіх банкаў.

Аднак гэта яшчэ не ўсё. Ляснічы Фельдман закапаў на панадворку дзесяць скрыняў платыны, якая бясследна знікла. Фельдмана дапытвалі афіцэры «Сі-Ай-Сі», ён нязменна цвярдзіў, што платыну перадаў групе амерыканскіх афіцэраў, якія праводзілі па хатах рэвізіі, і ў доказ сваіх слоў паказаў распіску. Распіска аказалася фікцыйнай. У чэрвені 1945 г. у горадзе Штарнберг быў вылаўлены з вады труп невядомага чалавека з прастрэленаю галавою. У кішэнях была знойдзена ўсяго толькі квітанцыя багажнага аддзялення чыгуначнага вакзала Гарміш - Партэнкірхена, на падставе якой амерыканскаму афіцэру разведкі выдалі вялікі сундук. Ён важыў добрую тону, і быў напоўнены залатымі зліткамі. Сундук быў перададзены амерыканскаму ваеннаму губернатару маёру Боргу. Аднак гэтыя багацці ніколі не трапілі ў рукі амерыканскіх улад. Уся справа ў тым, што фашысты настолькі перакупілі амерыканскую адміністрацыю ў Гарміш-Партэнкірхене, што цяжка высветліць, дзе канчаюцца сакрэтныя ніці абверштэле, а дзе пачынаюцца шчупальцы «Сі-Ай-Сі» і зладзействы. Гітлераўцы абвілі сваімі залатымі сецямі кіраўніка амерыканскага магістрата Гарміш-Партэнкірхена — капітана Р. Макензі. Іменна дзякуючы яго дапамозе, фашыстам удалося захаваць для сваёй падпольнай дзейнасці велізарныя грашовыя сумы. 24 жніўня 1945 года ў вілі Гейнрыхштэйнаў адбыўся фікцыйны акт перадачы кампаніяй Ф. Куртмана германскіх валютных фондаў «прадстаўніку» амерыканскіх улад — нейкаму капітану Хартману. У пацвярджэнне гэтага быў складзены дакумент, што браты Гейнрыхштэйны перадалі амерыканскай арміі 404.840 долараў і 405 англійскіх фунтаў. На другі дзень Куртман і Бекер зніклі. Разам з імі ўцёк і Хартман, які аказаўся ні кім іншым, як амерыканскім капітанам Р. Макензі. У канцы 1946 года ўслед за імі ўцёк Лібенау. Неўзабаве апынуліся яны ў Паўднёвай Амерыцы. Тым не менш у вілі Гейнрыхштэйнаў заўсёды быў ажыўлены рух. Тут можна было сустрэць многа амерыканскіх персон. Праз Цэнту Хаўзер Гейнрыхштэйны былі звязаны з чорным рынкам і праводзілі ўсякія валютныя камбінацыі. 27 снежня 1947 г. Хаўзер знойдзена з падрэзаным горлам. Выяснілася, што яна працавала адначасова на фашысцкае падполле і на амерыканскую разведку. Даследваннем акалічнасцей заняўся нямецкі паліцэйскі афіцэр Брунер. Але амерыканцы перанялі гэту справу ў свае рукі. Хутка пасля гэтага Брунер загінуў у загадкавых акалічнасцях. Справа Хаузер была затушавана амерыканцамі. Тым часам Франц Гейнрыхштэйн пасябраваў з ваенным губернатарам — маёрам М. Боргам. Часта на губернатарскім «мерседэсе» ездзілі ў Швейцарыю. За граніцу машына ішла нагружаная чымсьці, а назад варочалася паражняком. Праз некаторы час Франц Гейнрыхштэйн быў вымушаны ўцякаць за граніцу, апынуўся ў Буэнас-Айрэс, у Аргенціне, дзе закупіў кінакампанію. За Гейнрыхштэйнам знік з Гарміш - Партэнкірхена і маёр М. Борг...

Так паплылі за граніцу каштоўнасці германскага рэйхсбанка. Гэта справа ўсё яшчэ належыць да тайных, але з часам напэўна стануць вядомымі ўсе падрабязнасці знікнення каштоўнасцей дзяржаўнага банка фашысцкай Германіі.

а-ся

## ГАНА

**Кожную вольную хвіліну людзі Ганы (Афрыка) аддаюць грамадскай працы. Будуюць школы, амбулаторыі, бібліятэкі.**

**На здымку: Ганскія жанчыны нясуць на галаве (так у іх носіцца) у гаршках і вёдрах цэмент на будову школы.** вл.



## Будзільнік, які страляе

Звычайны будзільнік, як кожнаму вядома, каб разбудзіць чалавека, некалькі секунд грахоча сваім званком. А вось гэты будзільнік, якога вы бачыце на здымку, не звоніць, а проста... страляе. Зразумела, не ў спячага чалавека. Яго механізм дзейнічае так: а патрэбнай гадзіне стрэлка маленькага кавадла кранаецца з месца і раптоўна ападае на капсуль, напоўнены порахам. Гэта выклікае такі грукат, што яго не вытрымае найбольш устойлівы прыхільнік доўгага спання.

На жаль, гэтыя своеасаблівыя будзільнікі нідзе зараз не прадаюцца. Той, што на нашым здымку, убачыць можна толькі ў Будапешцкім музеі мастацкага рамясла. Яго ў 17-тым стагоддзі зрабіў венгерскі майстар Фама з Пестра. (о. — вр)





## НАШЫ СЛАБАСЦІ

**12 ЛЮТАГА 1963 г.** Нашы канікулы (як дарэчы і ва ўсіх студэнтаў) закончыліся. Зноў вучоба: лекцыі, канспекты, чарцяжы... Спраў процьма. Тут не заспяваеш: «Студент бывает весел от сесии до сесий...» Мы вучымся...

Асабліва цяжка нашым «лятунам». Юрыю і Герману давялося шмат паездзіць па розных краінах. Бывала, мы здаем экзамены, а яны ў заграніўнай паездцы. А патрабаванні адны — здаваць трэба ўсім. Вось і даводзіцца наганяць. І нашы хлопцы паспяхова спраўляюцца і з наземнымі «перагрузкамі».

*

...Учора назіраў такую карціну: Андрыян і яго дублёр у класе «асадзілі» дошку. У пакою ціха, чуваць, як крэйда скрыпіць...

Андрыян вырашае задачу. Яго напарнік уважліва сочыць, заглядваючы ў канспект, правярае формулу, параўноўвае вынік з адказам, які павінен атрымацца. Потым яны памяняліся ролямі.

Я намагаўся быць непрыкмечаным, перашкаджаць нельга — такі наш закон. Але тут з'явіўся Герман.

— Браткі, памажыце. Хітры прыклад трапіўся. Пачаў рашаць, быццам, атрымліваецца. Давайце разам праверым.

— Гэта цікава, — адразу згадзіўся Андрыян.

Цітоў быстра перапісаў на дошку прыклад і праз пару мінут атрымаў кампактны адказ.

— Ну як, браткі, хопіць матэматыкі, — не вытрымаў Герман. — Зробім перапынак? Прапаную «востранькую».

Гульню ў більярд у нас любяць па традыцыі. Няма, бадай, авіяцыйнай часці, дзе б не было більярднага стала і дзе б у вольныя хвіліны не былі чутны рэзкія ўдары шароў і вясёлы смех, калі той, хто прайграе, лезе пад стол.

Сёння мне не пашчасцілілася: давялося двойчы лазіць пад стол. Нічога, будзе і на нашай вуліцы свята.

**14 ЛЮТАГА 1963 г.** Вечарам марозіла. Каля дваццаці напэўна. Але хакейны матч адбыўся.

У запале гульні не абыйшлося і без «ахвяр». Сінякі — найлепшы доказ нашай цягі да хакею. Гэтым разам не пашанцавала Герману. Нехта канцом клюшкі яму падрапаў твар. Спачатку ён нават не звярнуў увагі на гэта. А калі ўжо былі ў раздзявалцы, нехта з хлопцаў пажартаваў:

— Ну, браткі, цяпер разгавораў будзе: Герман Цітоў хворы, пасля палёту ў яго з'явіліся сінякі на твары. Не верыце? Паглядзіце самі, пераканаецеся. Пляткары гэта разнясуць таксама хутка, як версію аб тым, быццам Андрыян жаніўся на актрысе.

Раздзявалка затраслася ад агульнага рогату. Смяяўся і сам пацярпеўшы. А што рабіць? Няма ж ходзіць па свеце самых дурных плётак, і нам даводзіцца толькі смяяцца над іх аўтарамі. **(«Авиация и космонавтика»).** Працяг будзе.

## БРАТЫ МАЮЦЬ ЖОНКУ

Шмат наслухаліся і начыталіся мы аб тым, як кожны араб мае па некалькі жонак. Але ёсць і наадварот...

У горных раёнах Індыі жыве старажытнае племя — Тоды. У іх маладая дзяўчына, якая выходзіць замуж, становіцца жонкаю ўсіх братоў. Бывае і так, што малодшаму брату ўсяго тры - чатыры гады, але ён ужо лічыцца жанатым і, зразумела, не мае права, калі дарасце, думаць пра якую - небудзь жаніцьбу. Аднак, калі закахаецца ў іншую дзяўчыну, можа з ёю спатыкацца і праводзіць ночы, толькі павінен заплаціць за гэта пэўную колькасць буйвалаў.

Жонка ў шостым месяцы цяжарнасці павінна сама выбраць са сваіх мужоў бацьку будучага дзіцяці. Найчасцей за бацьку выбірае старэйшага брата. Рэдка бывае так, што жонка выбірае таго з братоў, хто ёй наймацней падабаецца, або самага прыгожага.

Сварак і авантур не бывае. Усе жывуць згодна. Такое сямейнае жыццё тоды лічаць зусім нармальным і не ўяўляюць сабе, што недзе на свеце ёсць іначай.

а-ся



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

